


# Навіны

Беларускага Народнага Фронту «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Выдаецца са сьнежня 1988.

6'1991

Кошт 59 кап.




**с.3** Фармальна мэта дасягнутая. Што далей?




**с.5** Камунізм абрынуўся. «Справа 7 лістапада» перададзеная ў суд.



**с.4** Гаспадарчая рэформа 1948 у Заходняй Нямеччыне.



**с.7** Першы зьезд беларускіх вайскоўцаў мае адбыцца ў лістападзе.

## АДНАЎЛЕНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ – ПЕРШЫ КРОК БЕЛАРУСІ Ў XXI СТАГОДЗЬДЗЕ



Фота Ул.Сапагова.

ІНТЭРВІЮ

## Зянон Пазьняк: Беларусь – незалежная некамуністычная краіна

**«Навіны»: На апошняй сэсіі ВС БССР былі прынятыя рашэньні, якія кардынальным чынам зьмянілі дзяржаўны статус Рэспублікі. Бастыён камунізму раптоўна абрынуўся. Гэта стала прычынаю разгубленасьці многіх людзей.**

**Зянон Пазьняк:** Беларусь – незалежная некамуністычная краіна. І гэта ўсё. Аднак дзеля замацаваньня гэтых дасягненьняў патрэбная сіла. Гэткай сілаю зьяўляецца наш народ. Менавіта ягоная грамадзкая падтрымка патрэбная зараз ВС, а дакладней Апазіцыі. Першае. Народ павінен дапамагчы правесьці дэпартызацыю, г.зн. працоўныя калектывы павінны расфармаваць партыйныя структуры. Другое. Народ павінен паспрыяць саветам у справе апячатваньня маёмасьці КПСС і ЛКСМБ праз асабісты ўдзел, устаноўку пікетаў, арганізацыю патрулёў, збор подпісаў. Інакш цяпер ужо былыя партапаратчыкі па дамоўленасьці са сваімі прадстаўнікамі ў саветах будуць па-ранейшаму хадзіць у свае габінэты, выносіць маёмасьць.

Цяпер неабходна, каб народ уключыўся ў будаўніцтва свае незалежнасьці, свае Рэспублікі. На жаль, пакуль спрацоўвае ўласьцівая мэнтальнасьці паняволенага камунізмам народу звычка спадзявацца на тое, што ўсё гэта зробіць нехта іншы. Трэба перамагчы нявольніцкую псіхалёгію. І гісторыя дала нам шанец. Многае цяпер залежыць таксама ад інтэлігенцыі, ад грамадзкіх арганізацыяў і партыяў, якія апошнім часам некуды зьніклі з палітычнага небасхілу. Працаваць трэба цяпер. Потым можа быць позна.

Перад Беларусьсю стаіць задача стварэньня структураў, якія будуць абараняць нашу краіну, заваёвы дэмакратыі. Трэба сфармаваць нацыянальную гвардыю. Магчымасьць гэтага ёсьць, падтрымка ВС – таксама. Пытаньне толькі ў народнай ініцыятыве.

Я хачу падкрэсьліць, што ўсе захады, зьвязаныя з роспускам камуністычных структураў, дэпартызацыяй і абаронай незалежнасьці, – законныя. Камунізм больш ня вернецца.

**«Навіны»: Мяркуем, найбольш зацятыя рэшткі камуністычнае намэнклятуры без супраціўленьня не аддадуць партыйную маёмасьць дзяржаве.**

**З.П.:** Саветы зараз ахвотна пойдуць на канфіскацыю партыйнае маёмасьці ў карысьць дзяржавы, бо патрэбныя памяшканьні для шпіталяў, школаў, бібліятэкаў, дзіцячых садкоў. Аднак рэальна правесьці нацыяналізацыю можна толькі явачным парадкам. Мэханізм такі: Саветы прымаюць рашэньні адносна маёмасьці, няхай і часовыя, а народу трэба браць тое, што яму належыць. Гэтыя будынкі не павінны стаяць пустыя.

**«Навіны»: Як быць са старымі структурамі ўлады. Ці адпавядаюць яны пераменам?**

**З.П.:** У рэформе структураў улады мы адсталі ад Балтыйскіх краінаў на паўтара года. Цяпер як незалежная дзяржава мы павінны сфармаваць свае структуры ўлады й свае структуры абароны гэтае ўлады паскоранымі тэмпамі. Ініцыятыва народу ў гэтай справе шмат у чым паскорыць яе рэалізацыю.

**«Навіны»: Сёньня рычагі выканаўчае ўлады сканцэнтраваныя ў рукох В.Кебіча. У якой ступені дзеяньні ягонага габінэту адпавядаюць сітуацыі?**

**З.П.:** Вячаслаў Кебіч, безумоўна, ня той чалавек, які патрэбны цяпер. Гэта былы член бюро ЦК КПБ, які насуперак абяцаньням, дадзеным Апазіцыі ня выйшаў з кампартыі, а толькі прыпыніў сваё членства ў ёй. Але нават калі-б ён цалкам перайшоў на бок дэмакратыі, яму было-б цяжка працаваць у цяперашніх наскрозь пракамуністычных структурах. Ён дзейнічае ў рамках былых апаратных сувязяў і вельмі нерашуча. На гэтай сэсіі Апазіцыя дала В.Кебічу шанец, у выніку ён падтрымаў тады пэўны пакет нашых прапановаў. Пасьля сэсіі ён збавіў актыўнасьць, дэкамунізацыя пайшла квола, Рэспубліка затрымліваецца ў падвешаным стане. Калі так будзе й надалей, Апазіцыя пойдзе на самыя рашучыя меры.

Момант вымагае рашучых кадравых зьменаў (маюцца на ўвазе людзі, якія падтрымалі хунту), рашучых рэформаў. Калі гэта ня будзе зроблена, дык пытаньне аб роспуску Саўміну стане адназначным. На гэтай сэсіі яно не было вырашанае з прычыны таго, што мы не маглі ў пераломны момант пакінуць Рэспубліку ўвогуле без выканаўчае ўлады. Праблема ўпіраецца таксама й у цяперашні склад ВС, які няздольны сфармаваць кампэтэнтны дэмакратычны габінэт. Таму найперш мы павінны распусьціць гэты ВС, правесьці новыя выбары, й толькі тады можна будзе гаварыць пра сапраўдную рэформу выканаўчае ўлады.

**«Навіны»: Асаблівыя пытаньні выклікае той факт, што дагэтуль на сваёй пасадзе Пракурор БССР Г.Тарнаўскі, які санкцыяваў перасьлед за палітычныя перакананьні ўдзельнікаў антыкамуністычнага мітынгу 7 лістападу 1990, нязвольненыя міністар юстыцыі Л.Дашук і старшыня Дзяржтэдерадыё БССР А.Сталяроў, якія падтрымалі хунту. Вядома, што В.Кебіч даваў некаторыя абяцаньні на гэты конт. Чаму яны нявыкананыя?**

**З.П.:** Абяцаньні былі дадзеныя адносна ўсіх пералічаных асобаў. Але Г.Тарнаўскага можа вызваліць ад пасады толькі ВС. Тэрмін ягонага знаходжаньня на пасадзе Пракурора Рэспублікі скончыўся ў жніўні. Як чалавек пэнсійнага ўзросту, Г.Тарнаўскі мог сам зараз падаць у адстаўку, і гэта было-б найлепшае выйсьце.

Што датычыць міністраў, дык на 4-й сэсіі ВС В.Кебіч атрымаў паўнамоцтвы здымаць і прызначаць іх. Тое, што ён цягне час, як раз і ілюструе ягоную нерашучасьць, пра якую гаварылася вышэй. Калі гэтак будзе працягвацца, Апазіцыя зьвернецца да грамадзкасьці, што будзе не на карысьць В.Кебічу, які пакуль у адстаўку не зьбіраецца. Калі ён разьлічвае на палітычную будучыню, ён павінны пераглядзець лінію паводзінаў.

**«Навіны»: Як спрыяе Прэзідыюм ВС выкананьню пастановаў і закону пра незалежнасьць Беларусі?**

**З.П.:** Прэзідыюм павінен пайсьці ў адстаўку, бо ў ім сабраліся людзі, далёкія ад палітыкі й разуменьня таго, што мы цяпер жывем у незалежнай дзяржаве.

**«Навіны»: Дзякуй.**

Запісала Ірына Лазоўская.

ДОСЬВЕД

# Гаспадарчая рэформа ў Нямеччыне: Шок – лекі ад нацысцкага сацыялізму

У 1948 становішча Нямеччыны шмат у чым нагадвала цяперашняе становішча СССР: паліцы крамаў пустыя, дэфіцытныя тавары выдаваліся па картках, буяла спэкуляцыя імпартнымі таварамі, на руках у насельніцтва й у ашчадных касах – маса абясцэненых грошай.

Ёсьць, безумоўна, і адрозьненьні. За сьпінаю ў немцаў было толькі 15 год нацысцкага варыянту сацыялізму. У Нямеччыне фармальна захавалася прыватная ўласнасьць, і толькі частка прадпрыемстваў была нацыяналізаваная. Захаваліся, хаця й у чэзлым выглядзе, інстытуты рынкавае гаспадаркі. У нас-жа яны былі падарваныя яшчэ ў часы ваеннага камунізму і канчаткова адыйшлі ў нябыт пасьля зьліквідаваньня НЭПу. Але нямецкая эканоміка тых часоў была панішчаная авіяцыяй саюзьнікаў і дэмантаваная пераможцамі.

Гаспадарчая рэформа 1948 году ў Заходняй Нямеччыне – пераход ад плянавае эканомікі да рынкавае – крута павярнула лёс гэтае краіны. Абясцэненыя грошы сталі цьвёрдай валютай, узровень жыцьця вырас у 1,5 раза, вытворчасьць тавараў народнага спажываньня – у 2 разы, і ўсё гэта за два гады. Праўда, першыя 6 месяцаў расьлі цэны, а на працягу году на 150 тысяч скарацілася колькасьць працоўных мейсцаў.

На шляху да рынкавае эканомікі рэформа Л.Эргарда сустрэла адпор як з боку ангельскае й французкае акупацыйнае ўлады, гэтак і з боку сацыялістаў усіх гатункаў. Аргумэнты гучалі тыя-ж, што й з вуснаў цяперашніх «левых»: у нас шмат гадоў не было рынкавае эканомікі, хто-ж і як будзе працаваць у рынку?; лібэралізацыя цэнаў прывядзе да галечы й без таго зьбяднелага насельніцтва; вызваліць цэны можна толькі ў здаровай эканоміцы, дзе няма дэфіцытаў, а пакуль яе трэба лячыць, ажыцьцяўляючы справядлівае разьмеркаваньне й г.д. У чарговы раз, як, зрэшты, і заўжды, сацыялістычны аналіз быў цалкам няслушны.

Шокавая тэрапія, праведзеная ў Нямеччыне, прынесла рост узроўню жыцьця, насычэньне спажывецкіга рынку, рост экспарту й устойлівы дынамічны рост эканомікі. На гэтым шляху былі цяжкасьці: інфляцыя, беспрацоўе, падзеньне ўзроўню жыцьця. Але гэта былі першыя паўгода рэформы, гэта былі горкія лёкі, неабходныя для выздараўленьня.

Гаспадарчая рэформа ў Нямеччыне пачалася ў ноч на 21.07.1948 з абмену грошай. Старыя райхсмаркі былі абвешчаныя несапраўднымі, і ўведзеныя новыя грошы – дойчмаркі (DM). Кожны жыхар краіны атрымаў на рукі па 40 DM (потым да іх дадалі яшчэ 20). Пэнсіі, заробкі, кватэрная плата надалей падлягалі аплаце ў новых марках у прапорцыі 1:1. Палова наяўнасьці й прыватных ашчаджэньняў абменьваліся 1:10, а палова была замарожаная й пазьней абменьвалася 1:20. Большая частка грашовых абавязкаў пералічвалася па курсе 1:10, абавязкі банкаў і ўстановаў былога Райху былі ануляваныя. Прадпрыемствы атрымалі наяўнасьць дзеля выплаты першага заробку, але надалей павінны былі існаваць за кошт продажу свае прадукцыі. Цераз тры дні пасьля валютнае рэформы была праведзеная рэформа цэнаў, скасаванае адміністрацыйнае разьмеркаваньне рэсурсаў і кантроль над цэнамі.

Пазьней была ўведзеная канвэртацыя маркі й лібэралізаваная зьнешнегандлёвая дзейнасьць. У выніку рэформы рэальны заробак за адну рабочую гадзіну вырас з 0,99 DM у чэрвені 1948 да 1,33 DM у сьнежні 1949. У той-жа час цэны пасьля інфляцыйнага ўзьлёту вярнуліся да ўзроўню 1948.

У Нямеччыне, якая першай паспытала шокавае тэрапіі, было багата перавагаў перад намі: разьвітая эканамічная й вытворчая культура нацыі, дапамога паводле пляну Маршала. Не было неабходнасьці ў правядзеньні прыватызацыі ў шырокім маштабе, ужо існавала патрэбная рынкавая інфраструктура. Але шокавая тэрапія – гэта адзіны сродак ратаваньня разваленае плянам эканомікі, і гэты сродак (пры рацыянальным выкарыстаньні) непазьбежна вядзе да посьпеху. Посьпех можа быць большым ці меншым, але ён абавяз-



*У 1991 маскоўскае агенцтва «Начало-пресс» 50-тысячным накладам выпусьціла расейскі пераклад кнігі Людвіга Эргарда «Дабрабыт для ўсіх».*
*Кніга ўпершыню на нямецкай мове выйшла ў 1956, у ёй быў апісаны досьвед рэформы 1948–55 у Заходняй Нямеччыне. Гэтая рэформа стварыла «нямецкі эканамічны цуд».*

## Людвік ЭРГАРД

### Кароткая біяграфія

**Людвіг Эргард нарадзіўся 4 лютага 1887 у горадзе Фюрт (Баварыя). Скончыў Вышэйшую камэрцыйную школу ў Нюрнбэргу. Абараніў доктарскую дысэртацыю ў Франкфурцкім унівэрсітэце.**

**У 1928 Л.Эргард паступіў у «Інстытут па вывучэньні гаспадарча-кан'юнктурных умоваў у сфэры нямецкіх гатовых вырабаў» пры Вышэйшай камэрцыйнай школе ў Нюрнбэргу й неўзабаве стаў намесьнікам дырэктара гэтага інстытуту. Аднак да выкладчыцкае дзейнасьці нацыяналь-сацыялісты яго не дапускалі, і ў 1942 ён пакідае інстытут.**

**Ад прамысловых колаў ён атрымаў стыпэндыю й вёў незалежныя дасьледаваньні з групаю аднадумцаў.**

**З восені 1945 да канца 1946 Эргард – міністар гаспадаркі ў Баварыі; у 1947 – прафэсар Мюнхенскага ўнівэрсітэту. Затым ён узначаліў групу, што распрацоўвала праект грашовае рэформы. Увесну 1948 ён стаў дырэктарам Праўленьня гаспадаркі Аб'яднанае эканомічнае вобласьці (трох заходніх акупацыйных зонаў).**

**Пры стварэньні ФРГ у 1949 Эргард заняў пасаду міністра народнае гаспадаркі, на якой заставаўся да 1957, калі стаў намесьнікам фэдэральнага канцлера, а пасьля сьмерці Адэнаўэра (1963) да 1966 быў фэдэральным канцлерам. Памёр у 1977 годзе.**

«...»

# ДАБРАБЫТ ПРАЗ КАНКУРЭНЦЫЮ

### З кнігі «Дабрабыт для ўсіх»

Я зыходзіў з жаданьня канчаткова пераадолець старую кансэрватыўную сацыяльную структуру шляхам стварэньня масавае пакупніцкае здольнасьці ўсіх слаёў насельніцтва.

Пры мінулым парадку існаваў, з аднаго боку, вельмі нешматлікі вышэйшы слой, які, у сэнсе спажываньня, мог дазволіць сабе ўсё, а з другога – колькасна значна шырэйшы слой насельніцтва, які валодаў недастаткова высокай пакупніцкай здольнасьцю. Пры рэарганізацыі нашага гаспадарчага парадку трэба стварыць умовы, каб пераадолець гэта супярэчнае прагрэсіўнаму разьвіцьцю сацыяльнае структуры становішча й, разам з тым, каб пераадолець непрыхільнасьць паміж «багатымі» й «беднымі».

Найбольш дзейсным сродкам дасягненьня й забесьпячэньня дабрабыту ёсьць канкурэнцыя. Яна адна дае магчымасьць усім людзям карыстацца гаспадарчым прагрэсам, асабліва ў ролі спажыўцоў. Яна зьнішчае ўсе прывілеі, якія не зьяўляюцца непасрэдным вынікам вышэйшае прадукцыйнасьці працы.

Праз канкурэнцыю можа быць дасягнутая, у лепшым сэнсе гэтага слова, сацыялізацыя прагрэсу й прыбытку, да таго-ж яна не дае згаснуць асабістаму імкненьню кожнага да працоўных дасягненьняў. Неад'емнай часткаю майго перакананьня, што менавіта такім шляхам можна найлепей памножыць дабрабыт, зьяўляецца жаданьне забясьпечыць усім працоўным адпаведнае росту прадукцыйнасьці іхняе працы няўхільнае павелічэньне заробку.

Небясьпека, што канкурэнцыі могуць чыніцца перашкоды, існуе ўвесь час і пагражае з розных бакоў. Таму забесьпячэньне свабоднае канкурэнцыі – адна з важнейшых задачаў дзяржавы, заснаванай на свабодным грамадзкім ладзе. Ня будзе перабольшваньнем, калі я скажу, што закон, які забараняе картэлі, павінен быў-бы мець важнасьць неабходнейшае «гаспадарчае канстытуцыі». Абвешчаны тут прынцып вядзе да катэгарычнага патрабаваньня, каб нікому з грамадзянаў не надаваліся правы й магчымасьці прыгнятаць асабістую свабоду ці абмяжоўваць яе ў імя памылкова зразуметае свабоды. Паняцьці «дабрабыт для ўсіх» і «дабрабыт праз канкурэнцыю» непарушна зьвязаныя. Адно зьяўляецца мэтаю, другое – шляхам, што вядзе да гэтае мэты. Я лічу значна больш важным дамагчыся памнажэньня дабрабыту шляхам экспансіі гаспадаркі, а не разьлічваць на тое, што дабрабыт узьнікне ў выніку марных спрэчак аб іншым пераразьмеркаваньні нацыянальнае прадукцыі.

Нярэдка крытыкавалі мяне за тое, што я адмаўляюся разумець такі бясплённы ход думак. Посьпех пацьвердзіў маю рацыю. Нямецкая эканамічная палітыка дала магчымасьць кожны год павялічваць прыбытак, які ўсе атрымліваюць з эканомікі. Асабістае спажываньне ўзрасло з 1950 па 1955. (у пераліку на цэны 1936-га) з 29 млрд да 51 млрд. Гэты рост выводзіць нас на першае мейсца ў сьвеце.

Мой скептыцызм у дачыненьні ўсіх спрэчак аб «справядлівым» разьмеркаваньні нацыянальнае прадукцыі зыходзіць зь перакананьня, што любыя патрабаваньні павелічэньня заробнае платы, абгрунтаваныя гэтай справядлівасьцю, знаходзяцца ў той-жа плоскасьці, што й разнастайныя спробы іншых зацікаўленых групаў, а таксама шырокіх пластоў народу, і зводзяцца да імкненьня дамагчыся для сябе выгодаў за кошт іншых. Пры гэтым легкадумна забываецца, што перадумоваю любых патрабаваньняў мусіць быць павелічэньне вытворчасьці. Падобны, проста-такі дзіцячы, падыход у сваім ілюзіяністычным асьляпленьні ставіць у рэшце рэшт пад пагрозу асновы нашага прагрэсу. І тут прызнаньне прынцыпу канкурэнцыі можа стацца перашкодаю эгаізму. Як у здаровай, заснаванай на канкурэнцыі, гаспадарцы не дазволена, каб кожны асобны ўдзельнік патрабаваў-бы сабе прывілеяў, гэтак падобны спосаб узбагачэньня недапушчальны й у дачыненьні цэлых групаў. Свабода спажываньня й свабода гаспадарчае дзейнасьці павінны ў сьвядомасьці кожнага грамадзяніна ўспрымацца як недатыкальныя асноўныя правы. Замахі на іх павінны карацца як замахі на наш грамадзкі лад. Дэмакратыя й свабодная гаспадарка знаходзяцца ў такой-жа лягічнай сувязі, як і дыктатура й дзяржаўная гаспадарка.

КАМЭНТАР

# Сацыяльная рынкавая гаспадарка – гэта клясічны капіталізм плюс прыярытэт спажыўца

Нашае грамадазнаўства вагаецца паміж дзьвюма ідэялёгіямі: сацыялістычнай і лібэральнай. У эканамічнай сфэры гэта розныя мадэлі: рэгуляваная гаспадарка й вольны рынак (клясічны капіталізм 20 ст.). Але за апошнія гады зьявілася нешта іншае. І гэтае нешта знайшло найбольш поўнае тэарэтычнае й практычнае ўвасабленьне ў Нямеччыне. Тое, што ў Нямеччыне – гэта заканамерна. Па-першае, таму, што менавіта немцы звычайна надаюць форму й акрэсьленасьць новым сацыяльным ідэям, якія «блукаюць» па Эўропе. Па-другое, сацыяльны досьвед краіны й перажыты ёю жах нацысцкае мадэлі сацыялізму, зрабіў волю абсалютнай грамадзкай каштоўнасьцю. Нямецкую мадэль назвалі сацыяльнай рынкавай гаспадаркаю. Яе тэарэтычны грунт й практычнае ажыцьцяўленьне зьвязанае зь імем прафэсара Людвіга Эргарда.

Розьніца паміж магчымымі варыянтамі сацыялістычнае эканомікі й вольнай рынкавай эканомікаю відавочная. Гэта розьніца паміж эканомікаю, якая палягае на «справядлівым разьмеркаваньні», а таму рэглямэнтуе дзейнасьць спажыўца й вытворцы, і эканомікаю, заснаванай на непахіснасьці каштоўнасьці свабоды для кожнага грамадзяніна ўладкоўваць сваё жыцьцё так, як гэта адпавядае – у межах фінансавых магчымасьцяў – ягоным уласным уяўленьням. Гэтае асноўнае дэмакратычнае права свабоды спажываньня лягічна дапаўняецца свабодаю прадпрымальніка выраблядь тыя прадукты, якія, на ягоную думку, адпавядаюць жаданьням пакупнікоў, бо менавіта ступень задавальненьня патрэбаў апошніх вызначае ступень яго гаспадарчага посьпеху.

Асноўныя адрозьненьні паміж вольнай рынкавай эканомікаю й сацыяльнай рынкавай эканомікаю не такія выразныя. І гэтая невыразнасьць зьвязаная з тым, што зыходная каштоўнасьць для абедзьвюх мадэляў – свабода. Розьніца палягае на асаблівасьцях разуменьня свабоды спажыўца й падпрыймальніка, а таксама ролі дзяржавы.

Для лібэралаў свабода спажыўца й прадпрымальніка раўназначныя. У сацыяльнай рынкавай гаспадарцы прыярытэт мае спажывец, і гэта абмяжоўвае свабоду прадпрымальніка ствараць манапалістычныя аб'яднаньні. Гэтае адрозьненьне ёсьць падмуркам, на якім грунтуюцца два галоўныя сродкі. Па-першае, асноўная мэта пры сацыяльнай рынкавай гаспадарцы – дабрабыт для ўсіх; сродкі дасягненьня – не пераразьмеркаваньне, а разьвіцьцё эканомікі, калі кожны атрымлівае болей ад узрослага пірага. Па-другое, дзяржава не застаецца толькі «начным вартаўніком», які ахоўвае рынак, яна праводзіць актыўную эканамічную палітыку. Рынак выступае не як самамэта, а як сродак дзеля дасягненьня сацыяльных мэтаў, у прыватнасьці, дзеля прадухіленьня разбуральных сацыяльных канфліктаў у грамадстве й максімальнага разьвіцьця творчага патэнцыялу краіны. Набор мэтадаў, якія выкарыстоўвае дзяржава пры правядзеньні свае эканамічнае палітыкі, абмяжоўваецца недатыкальнасьцю асноўнае каштоўнасьці – свабоды. Адной з асноўных задачаў дзяржавы ёсьць падтрыманьне высокае канкурэнцыі ва ўсіх галінах эканомікі, толькі ва ўмовах такой канкурэнцыі спажывец мае поўную свабоду, а прадпрымальнікі трапляюць у варункі, што найболей стымулююць іх інавацыйную дзейнасьць.



На здымку: Ларыса Верас, Вячка Станкевіч і Каміла Малевіч у беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода» у Мюнхене.
Фота Васіля Крупскага.

Сацыяльная рынкавая гаспадарка, у адрозьненьне ад лібэралізму, ставіцца да сацыяльнае забясьпечанасьці, як да неабходнага дабра, аднак яна павінна быць заснаваная на ўласнай актыўнасьці й мэтанакіраванасьці кожнага грамадзяніна. Сацыяльнае забесьпячэньне не азначае татальнага сацыяльнага страхаваньня ўсіх, хто перакладае індывідуальную адказнасьць за свой лёс на ўсё грамадзтва. Толькі ў тым выпадку, калі аднае асабістае адказнасьці з-за нейкіх прычынаў недастаткова, пачынаюць дзейнічаць абавязкі дзяржавы.

Яшчэ адно фундамэнтальнае адрозьненьне ад лібэралізму – зьмена прынцыпу індывідуалізму (барацьба ўсіх супраць усіх) на прынцып салідарызму (барацьба ў межах агульнае адказнасьці). Мэта – эканамічнае супрацоўніцтва, дзе кожны з бакоў змагаецца за свае інтарэсы, усьведамляючы сваю адказнасьць перад усім грамадзтвам. Такі падыход вымагае высокае грамадзкае вартасьці хрысьціянскіх каштоўнасьцяў.

Канцэпцыя сацыяльнае рынкавае гаспадаркі, у той ці іншай ступені рэалізіваная у большасьці г.зв. разьвітых краінаў, і зьяўляецца своеасаблівым сінтэзам цяжкага сацыяльнага досьведу 20 стагодзьдзя. Ідэйная ўстаноўка, на якой грунтуецца згаданая сістэма – гэта гатоўнасьць несьці адказнасьць за ўласны лёс і ўдзельнічаць у прыватным свабодным спаборніцтве за імкненьне да падвышэньня вытворчасьці. Менавіта гэта вядзе да стварэньня грамадзтва ўсеагульнага дабрабыту, заснаванага на свабодзе й салідарнасьці, да рэалізацыі пошукаў многіх ідэялягічных плыняў.

Матар'ялы паласы падрыхтаваў
Павел ДАНЕЙКА.

 



# Што вартуе хлопчык?

*Лідзія Цынгалёва – 46 год, беларуска, працуе пакаёўкаю ў Менскім гатэлі «Беларусь». За ўдзел у антыкамуністычным мітынгу 7 лістапада абвінавачваецца па арт. $186^3$ і 201 ч. 2 КК БССР. Мера засьцярогі – падпіска пра нявыезд.*

Гэтую жанчыну жыхары Рэспублікі, дзякуючы намаганьням Беларускае тэлевізіі, добра ведаюць нават у твар. Гэта яна, выхапленая з натоўпу тэлекамэраю, у запале таптала кошыкі з кветкамі. Гэта пра яе камэнтатары БТ з напускным гневам гаварылі штосьці накшталт: «Вось яно сапраўднае зьвярынае аблічча БНФ!».

У лісьце, адрасаваным у нашую газэту й на беларускую праграму радыё «Свабода», Л.Цынгалёва піша: «Усё маё жыцьцё – гэта бясконцая чарада прыніжэньняў і пакутаў. Звыш 10 год я жыла ў Менску без прапіскі й жытла. Сістэма патрабавала ад мяне аднаго – хлусьні, грошай і махлярства. Максімалізм, які не дазваляў мне змаўчаць, заплюшчыўшы вочы на несправядлівасьць і ашуканства, стаў прычынаю перасьледу на працы. Адміністрацыі кавярняў нічога не каштуе зьвесьці рахункі з такімі сацыяльна неабароненымі асобамі, як я. Гэта робіцца рукамі астатніх работнікаў калектыву, якія, баючыся за сваё мейсца, удзельнічаюць у цкаваньні».

Адзінае багацьце Л.Цынгалёвай – аднапакаёвая каапэратыўная кватэра плошчаю $12,8$ м², якую яна займае разам з дачкой-школьніцай. «Я выбіла яе праз нечалавечыя намаганьні, – піша Л.Цынгалёва, – гэта было складзкое памяшканьне на першым паверсе. Раней тут захоўваліся фарбы. Рамонт давялося рабіць самой і за свой кошт». Каб дапамаглі давесьці кватэру да ладу, Лідзія Цынгалёва зьвярнулася да начальніка ЖЭС №370 Ул.Маслова, аднак той праігнараваў просьбы простае жанчыны й, калі размова перайшла на высокія таны, сказаў, што яна памрэ ў гэтай шпакоўні. У Фрунзенскім выканкаме, куды, спрабуючы палепшыць свае жыльлёвыя ўмовы, таксама зьвярталася Л.Цынгалёва, ёй заявілі: «Факт нараджэньня дзіцяці бяз бацькі – не аргумэнт, а ганьба».

У аб'яднаньні гатэлевай гаспадаркі гораду, як у люстэрку, адбіваюцца ўсе праблемы грамадзтва (гэтаму асабліва спрыяе транзітнасьць кліентаў). «У брыгадзе, дзе я працую, пануюць п'янства, хамства, прыпіскі, зьнявага правоў асобы, крадзёж бялізны, антысанітарыя й грубае стаўленьне да наведнікаў гатэля,» – сьцьвярджае Л.Цынгалёва. Дарэчы, хто хаця-б раз спыняўся ў савецкім гатэлі, ведае, што гэта такое. «Новы, цудоўна абсталяваны гатэль каманднa-адміністрацыйная сістэма разваліла за якія 4 гады, – падкрэсьлівае Л.Цынгалёва. – Мае бясконцыя патрабаваньні, скаргі, сядзячыя страйкі мелі толькі адзін вынік – перасьлед з боку адміністрацыі. Летась намесьнік дырэктара гатэля па рэжыме М.Афанасьеў, які быў звольнены зь міліцыі за перавышэньне паўнамоцтваў у вядомай «віцебскай справе», на вачох іншых пакаёвак зьбіў мяне».

«7 лістапада, – піша Л.Цынгалёва, – я выйшла на антыкамуністычны мітынг сураць КПБ-КПСС, якая нараджае й падтрымлівае ў людзях страх».

Пасьля таго, як была заведзеная крымінальная справа, жыцьцё гэтае жанчыны стала невыносным. «Мала таго, што стасункі з начальствам яшчэ пагоршыліся, міліцыя зацікавілася маёй дачкою,» – гаворыць Л.Цынгалёва. Яе дачка, вучаніца 3 клясы СШ №49, была на мяжы нэрвовага зрыву. Узрушаная прапагандысцкай шуміхаю й нэрвознасьцю маці дзяўчынка баялася, што ўлады арыштуюць маці, а яе накіруюць у дзіцячы дом. Пасьля таго, як да іх у клясу прыходзіў міліцыянт з мэтаю высьветліць, ці ня грэбуе падсьледная сваімі бацькоўскімі абавязкамі, маці была вымушаная амаль на два тыдні забраць напалоханую дзяўчынку са школы.

Адміністрацыя гатэля «Беларусь», не зважаючы на вынікі судова-мэдычнае экспэртызы, праведзенай у траўні, спрабуе выдаць Л.Цынгалёву за вар'ятку. Кіраўніцтва гатэля накіравала ў гарадзкі псіха-нэўралягічны дыспансэр ужо два запыты на жанчыну, з-за якіх яе запрашаюць на новае абсьледваньне. Адвакат Н.Дударава параіла ёй не адгукацца на гэтыя запрашэньні, бо паводле закону чалавек ня можа быць гвалтоўна прыцягнуты да псіхіятрычнае экспэртызы.

У заключных радкох Лідзія Цынгалёва піша: «Абараніце мяне ад гэтае сістэмы, якая прыніжае мяне, ламае маё здароўе, падводзіць да маральнага крызісу й галечы, спрабуе ўзьняць руку на будучыню майго дзіцяці».

Незадоўга да путчу ў Менску быў зьняважаны помнік М.Багдановічу, цудоўнаму беларускаму паэту, 100-я ўгодкі ад нараджэньня якога ў сёлета адзначае чалавецтва. Невядомыя расьпісалі пастамэнт і сам помнік крэйдаю. Аднак ніхто не пасьпяшаўся сьцерці брыдкія надпісы, не прыставіў для аховы помніка міліцыянтаў і, тым больш, не ўзбудзіў крымінальнае справы. Хто для рэспубліканскай Пракуратуры М.Багдановіч, – нейкі паэта, які пісаў на «хамскай» мове, нявартны клопату й тлуму. Іншая справа – Ленін, які й бронзавы жывейшы за ўсіх жывых.

P.S. Камуністычны рэжым абрынуўся. Але й цяпер чорны помнік на пляцы перад Домам ураду па-ранейшаму ахоўвае міліцыянт... Як той хлопчык на варце, якога не папярэдзілі, што гульня скончылася.

# Перад вясельлем не хацелася трапляць у КПЗ

*Аляксандар Амельчанка – 22 гады, беларус, працуе камэрцыйным агентам малога прадпрыемства «Код». За ўдзел у антыкамуністычным мітынгу 7 лістапада абвінавачваецца па арт. $186^3$ і 201 ч. 2 КК БССР. Мера засьцярогі – падпіска пра нявыезд.*

Калі пачалося ўскладаньне «дароў Леніну» А.Амельчанка быў выцесьнены натоўпам ледзь не да самага падножжа помніка.

Тады Аляксандар падняўся на пастамэнт і пачаў фатаграфаваць канфлікт. Неўзабаве скончылася стужка, і, паклаўшы фотаапарат у сумку, хлопец памахаў сьцягам, дапамог прычапіць адзін з сымбалічных дароў. Менавіта гэтыя дзеяньні былі зафіксаваныя відэакамэраю й сталі падставаю для ўзбуджэньня супроць А.Амельчанкі крымінальнае справы.

Але А.Амельчанка не асабліва турбуецца з гэтае прычыны. Ён нават адмовіўся ад адваката. А.Амельчанка лічыць, што суд будзе паблажлівы да яго, бо ў адрозьненьні ад астатніх падсьледных, ён ня стаў супраціўляцца й ахвотна прызнаў сваю віну паводле інкрымінаваных яму артыкулаў. Ён сказаў таксама, што сьледчы паставіўся да яго надзвычай карэктна й што прызнаньне віны адбылося па добрай волі й без уціску. «Прызнаеш ты сябе вінаватым ці не, ня мае значэньня, – заявіў А.Амельчанка, – два артыкулы ёсьць. Тым больш, у мяне хутка вясельле, і я не хацеў-бы трапляць у КПЗ. У гэтай справе пераможца будзе замаўляць музыку».

Што датычыцца прычынаў, якія прывялі яго на пляц Леніна, А.Амельчанка сказаў, што зьяўляецца сябрам БНФ з 10 сьнежня 1989. Гэтае рашэньне ён прыняў пасьля таго, як даведаўся пра памятны разгон Дзядоў. «7 лістапада маё мейсца было на пляцы Леніна,» – заявіў А.Амельчанка.

## ДАСЬЕ

*Зьмены ў грамадзка-палітычнай сітуацыі пакуль ніяк не адбіліся на лёсе падсьледных па гэтак званай «справе 7 лістапада» – яе матар'ялы перададзеныя ў Вярхоўны Суд БССР. Затое адбыліся цікавыя зьмены ў сфэры прафэсійных інтарэсаў «спэцыяліста па палітычных працэсах» старшага саветніка юстыцыі В.Собалева. Яшчэ месяц таму ён па даручэньні ЦК КПБ цкаваў антыкамуністаў, а зараз узначаліў групу па расьсьледваньні дзеяньняў службовых асобаў падчас спробы дзяржаўнага перавароту.*

# «Признайся, так будет лучше»

*Аляксей Шастакоў – 19 год, беларус, супрацоўнік малога прадпрыемства «Інтэлект», па вечарох падрабляе вартаўніком у беларускім дзіцячым садку №376. За ўдзел у антыкамуністычным мітынгу 7 лістапада абвінавачваецца па арт. $186^3$, $187^1$ і 201 ч. 2 КК БССР. Мера засьцярогі – падпіска пра нявыезд.*

Пачуўшы на мітынгу пра «дары Леніну», А.Шастакоў пасунуўся наперад, каб пабачыць, як гэта адбудзецца. Неўзабаве пачалася штурханіна. Разам зь іншымі ўдзельнікамі мітынгу Аляксей быў выцесьнены да пастамэнта. Ніякага непасрэднага кантакту з супрацоўнікамі міліцыі ён ня меў і супраціўленьня не аказваў. Аляксей падняўся на пастамэнт і, заўважыўшы адно з пудзілаў, сьцінуў яго на падножжа.

Спачатку Аляксей праходзіў па справе як сьведка, але пасьля штучнае эскаляцыі сьледзтва яму прад'явілі абвінавачваньне. А.Шастакоў лічыць, што супрацоўнікі праваахоўных органаў, зь якімі яму давялося сутыкнуцца пад час сьледзтва, іранічна ацэньвалі гэтую справу, якая на фоне росту сапраўды крымінальных злачынстваў выглядае абсурднай. «Яны нармальныя людзі, якія-б ніколі ня сталі займацца нечым падобным, каб над імі не стаялі ідэялягічныя гаспадары,» – сказаў А.Шастакоў.

«Іншая справа – старшы саветнік юстыцыі В.Собалеў, які прымушаў мяне прызнацца ў інкрымінаваных злачынствах,» – заявіў А.Шастакоў. Справа аб вызначэньні меры засьцярогі для А.Шастакова вырашалася 17 траўня, калі В.Сядоў ужо 10 дзён знаходзіўся ў СІЗО. Кіраўнік сьледчае групы паставіў хлопца перад выбарам: альбо ён прызнае сваю віну, альбо «накіруюць на Валадарку». Яго пасадзілі ў асобны пакой, далі паперу й ручку й прапанавалі самому «вырашыць свой лёс». Пазбаўлены магчымасьці параіцца з адвакатам адносна законнасьці падобнае пастаноўкі пытаньня, ён прызнаў сябе часткова вінаватым толькі па адным з трох інкрымінаваных яму артыкулаў, а менавіта, што ягоныя дзеяньні можна лічыць часткова хуліганскімі, але бязь дзёрзкасьці й цынізму. «Мяне вымусілі часткова прызнаць віну. Пры гэтым я кіраваўся тым, што на волі мне будзе прасьцей абараніць свае правы,» – сказаў А.Шастакоў.

# Першы «крымінальнік», якога Летува выдала БССР

*Валеры Савянкоў – 33 гады, расеец, прадавец незалежнае прэсы. За ўдзел у антыкамуністычным мітынгу 7 лістапада абвінавачваецца па арт. $186^3$ і 201 ч. 2 КК БССР. Мера засьцярогі – арышт, зьменены пазьней на падпіску пра нявыезд.*

Санкцыя на арышт В.Савянкова была падпісаная Генэральным пракурорам БССР Г.Тарнаўскім 7 чэрвеня. Праз некалькі дзён сьледчая група зь Беларусі праз пасрэдніцтва Пракуратуры ЛССР праехала ў Літоўскую Рэспубліку, абмінуўшы законную Пракуратуру гэтае дзяржавы.

«Да гэтага я праходзіў па справе як сьведка і даў Пракуратуры БССР магчымыя тлумачэньні, – сказаў В.Савянкоў. Але калі стала зразумела, што са сьведкі я ператварыўся ў падсьледнага, пачаў высьвятляць, – чаму, і патэлефанаваў у Менск да знаёмага работніка сьледчых органаў Беларусі А.Каргіна, які паведаміў, што ў блізкіх да Пракуратуры колах абмяркоўваюць выклік Пракурора БССР Г.Тарнаўскага «на дыван» у ЦК КПБ, дзе прагучала патрабаваньне пакараць удзельнікаў антыкамуністычнае акцыі з усёй строгасьцю. Па вяртаньні Г.Тарнаўскі сабраў у Пракуратуры нараду сьледчае групы па гэтай справе й абвясьціў падначаленым асаблівае меркаваньне ЦК КПБ. Тады сьледчы В.Кудзін заявіў, што ў дзеяньнях дэманстрантаў няма аніякага крыміналу, і ў Пракуратуры няма падставаў арыштоўваць каго-б там ні было, акрамя аднаго чалавека, прызнанага вар'ятам. Пасьля гэтага на мейсца старшыні сьледчае групы быў прызначаны больш «гнуткі» сьледчы, ст. саветнік юстыцыі В.Собалеў. Менавіта з гэтага моманту й распачаліся рэпрэсіі, а сьведкі ператварыліся ў абвінавачаных».

Цікавыя акалічнасьці арышту В.Савянкова. 4 ліпеня работнікі крымінальнага вышуку Галоўнай управы Камісарыяту віленскай паліцыі, выламалі дзьверы ягонае кватэры (згодна з санкцыяй Г.Тарнаўскага на В.Савянкова, як на асаблівага злачынцу быў абвешчаны ўсесаюзны вышук) й арыштавалі яго. У Камісарыяце В.Савянкоў зрабіў заяву адносна сутнасьці ўзбуджанае супроць яго справы. Пасьля азнаямленьня з гэтай заяваю, пракурор Вільні катэгарычна адмовіў у выдачы санкцыі на арышт В.Савянкова. Аднак паліцэйская ўправа, кіруючыся падпісанай 12 чэрвеня дамоваю паміж МУС БССР і МУС Літвы аб узаемнай выдачы крымінальных злачынцаў, зьвязалася з ўпраўленьнем унутраных справаў у Менску, супрацоўнікі якога ў сваю чаргу выйшлі на Пракуратуру БССР і паведамілі пра складанасьці зь літоўскім бокам. Пасьля гэтага Пракуратура БССР паведаміла літоўскаму боку, што на «Жыгулёх» у Вільню тэрмінова выяздждае сьледчая група Пракуратуры БССР для правядзеньня допыту, складаньня пратакола й абвяшчэньня меры засьцярогі – падпіскі пра нявыезд. Позна ўначы замест абяцанага «Жыгулёнка» з групаю канвою прыехаў турэмны «варанок».

Увечары 5 ліпеня В.Савянкоў быў зьмешчаны ў СІЗО №1. Спачатку ён трапіў у «адстойнік» – у разьлічаную на 5-х камэру № 202, дзе знаходзілася ўжо 9 чалавек. «Па сьценах поўзаюць блохі, вакол бруд і смурод, тутжа адбываецца, так бы мовіць, мэдычны агляд – неахайная мэдсястра нестэрыльным шпрыцам бярэ ў вязьняў кроў з вэны, пры гэтым рэдка трапляючы зь першага разу, кроў часта ліецца проста на падлогу», – гаворыць В.Савянкоў – «Што датычыцца харчаваньня, дык гэта звышпрымітыўны набор: на абед суп з мойвы, капусты ці гароху, каша з аўса або «сечка» без аніякага тлушчу, на вячэру, звычайна, сушаная бульба, якая ўяўляе сабой клейстэрнае рэчыва жоўта-зялёнага колеру з чорнымі ўкрапленьнямі, да якога чамусьці з раніцы выдаецца напаўзгнілы селядзец, які ў чаканьні бульбы да вечара ляжыць у куце каля санвузла. З раніцы падфарбаваны вар, а ўвечары проста – цёплая вада. Адзінае, што вязьні адзначаюць як станоўчае – паляпшэньне якасьці хлеба.

У камэры № 32, дзе знаходзіўся В.Савянкоў, разьлічанай на 10 чалавек, сядзела 15, зь якіх 2 – хранічныя сухотнікі па мянушках Салдат і Дзед. У забойцы Колі было нейкае захворваньне скуры, і ўсё ягонае цела было пакрытае чырвонымі плямамі, якія передаліся яшчэ двум сукамэрнікам. «За час майго знаходжаньня ў гэтай камэры, – гаворыць В.Савянкоў, – ніводзін зь іх не дамогся мэдычнае дапамогі. Калі вязень па мянушцы Лысы разьбіў у кроў калена й паспрабаваў выпрасіць у наглядчыка ёд, той толькі высьмяяў яго, сказаўшы, што на гэтым паверсе ніколі не было аптэчкі».

8 ліпеня В.Савянкоў зьвярнуўся з заяваю да начальніка УЖ-15 13–1, у якой паведаміў, што з 10 ліпеня абвяшчае палітычную галадоўку супроць незаконнага ўтрыманьня й адмаўляецца ад прыёму ежы да наведваньня яго дэпутатам ВС З.Пазьняком. На наступны дзень ён быў выкліканы да начальніка турмы, які растлумачыў, што В.Савянкоў ня мае права зьвяртацца ў ВС да дэпутатаў, бо яны не зьяўляюцца прадстаўнікамі кампэтэнтных органаў. У выпадку, калі галадоўка ня будзе спыненая, яму прыгразілі карцарам.

За 5 дзён палітычнае галадоўкі В.Савянкова ніводнага разу не наведаў ня тое што лекар, але нават санітар, хаця мэдычны агляд галадоўшчыка павінен быць праведзены не пазьней чым на 3-і дзень. 15 ліпеня В.Савянкоў быў выкліканы ў габінэт, дзе яго чакалі 16 тамоў крымінальнае справы. Яму, як і В.Сядову, пад пагрозаю было прапанавана даць расьпіску, што са справаю азнаёмлены, пасьля чаго паабяцалі вызваліць пад падпіску пра нявыезд. Нанятага сваякамі В.Савянкова адваката Угольнікаву да падсьледнага не пускалі.

15 ліпеня В.Савянкоў быў вызвалены да суда пад падпіску пра нявыезд.

# ГУЛАГ пад бокам

*2 жніўня ў будынку Менгарсавету адбылася прэс-канфэрэнцыя «Правы чалавека й пэтэнцыярная сістэма ў БССР». У ёй ўдзельнічалі народныя дэпутаты Зянон Пазьняк і Яўген Новікаў, прадстаўнікі дэпутацкае камісіі Апазіцыі БНФ, якая правярала ўмовы ўтрыманьня ў СІЗО №1, а таксама супрацоўнік нашае газэты Валеры Сядоў, які правёў у СІЗО 70 дзён.*

«ГУЛАГ існуе ў нас пад бокам, у 1991 годзе. – ахарактарызаваў Зянон Пазьняк парадкі ў сьледчым ізалятары №1 упраўленьня унутраных справаў Менаблвыканкаму, – Рэжым сьледчага ізалятара, адносіны да людзей, парушэньні правоў чалавека, грэблівае стаўленьне да закону й да чалавека не зьмяніліся з 30-х гадоў. В.Сядоў ня першы й не апошні. Там сядзяць людзі (больш за 2 тысячы чалавек), якія яшчэ не асуджаныя, і яны зьяўляюцца ахвярамі гэтага рэжыму. У дзяцей, якія трапілі ў гэтую сістэму, і якія сядзяць там па некалькі гадоў, шанцы стаць нармальнымі людзьмі, захаваць сваё здароўе, зводзяцца да нуля. Рэжым утрыманьня ў сьледчым ізалятары – гэта рэжым сталінскі, ён утрымлівае небясьпеку для грамадзтва. Гэта праблема ня толькі сфабрыкаванае справы на падзеях 7 лістапада, ня толькі праблема зьдзеку над канкрэтным чалавекам, гэта праблема, якая тычыцца ўсяго нашага грамадзтва».

Яўген Новікаў зачытаў урыўкі зь лістоў вязьняў, якія знаходзяцца ў менскім СІЗО №1: «Нас утрымліваюць у жахлівых умовах, няма гарачае вады, кормяць адзін раз у дзень а 17-й гадзіне, у прыбіральню выводзяць два разы на суткі раніцай і ўвечары, сьпім на звычайных дошках... Перанёс цяжкую форму гепатыту, патрэбная асаблівая дыета, але ніякае мэдычнае дапамогі не аказваецца». Яўген Новікаў назваў рэжым у СІЗО «узаконенай адылаўшчынай». «Чалавек гніе ў гэтай камэры, ён можа гніць там 3–4 гады, фактычна ён нясе пакараньне, ня будучы пакараным... Падчас сьледзтва ў СІЗО быў згвалтаваны 20-гадовы падсьледны Ш. Сьледчы сказаў яму: «Не прызнаешся – зробім «пеўнем», і яго перавялі ў адпаведную камэру. Цяпер ён інвалід II групы. Усё пакрываецца, сістэма зацікаўленая ў тым, каб падобныя факты не ўсплывалі».

Валеры Сядоў падкрэсьліў, што «Справы БНФ» і «справы Сядова» па падзяех 7 лістапада не існуе наогул – гэта правакацыя ЦК КПБ. Што датычыцца рэжыму ўтрыманьня ў СІЗО, дык людзі знаходзяцца там ва ўмовах, горшых за ўмовы ўтрыманьня зьвяроў у заапарку.

В.Сядоў падзякаваў БНФ і ўсім іншым асобам, якія змагаліся за яго вызваленьне й дапамагалі ягонай сям'і. Ён заявіў, што згодна з сакрэтнай інструкцыяй галадоўка трактуецца як грубае парушэньне рэжыму, і таму ён быў зьмешчаны ў карцар. Аднак ні яму ні народным дэпутатам начальнік СІЗО №1 гэтую інструкцыю не паказаў. (Дарэчы, у адпаведнасьці з рашэньнем Камітэту канстытуцыйнага нагляду СССР неапублікаваныя палажэньні, якія тычацца правоў чалавека, лічацца несапраўднымі).

Паводле В.Сядова, тое, што кіраўнік сьледчае групы ст. саветнік юстыцыі В.Собалеў і намесьнік пракурора БССР Ул.Кандрацьеў раілі яму добра пад'есьці пасьля галадоўкі, можна расцэньваць як замах на забойства.

Я.Новікаў сказаў, што Апазіцыя БНФ у ВС БССР будзе дамагацца стварэньня камісіі па наглядзе за рэжымам утрыманьня вязьняў і падсьледных у БССР. Па фактах, выяўленых дэпутацкай праверкаю, дэпутаты зьвярнуліся ў пракуратуру аб узбуджэньні крымінальнае справы супроць пракурора БССР Г.Тарнаўскага, намесьніка пракурора БССР Ул.Кандрацьева, начальніка СІЗО №1 Л.Лукашэвіча й сьледчага В.Собалева.

**Матар'ялы паласы падрыхтавала Іра Лазоўская.**



 

ПОГЛЯД

Юры ТУРОНАК

# Ці быў справядлівы ў Садоме?

(Заканчэньне. Пачатак у №№ 4'1991, 5'1991)

У жніўні 1943, верагодна, у канцы месяца Кубэ выслаў да Лёзэ чарговы, на гэты раз самы падрабязны свой рапарт, які быў якбы падсумаваньнем прошлых мэтадаў ажыцьцяўленьня акупацыі Беларусі цывільнымі й паліцэйскімі ўладамі, сьведчаньнем іх узаемнага канфлікту, які летам 1943 уступіў у найвастрэйшую фазу.

Камэнуючы выкладзеныя ў рапарце Кубэ жахлівыя падзеі на Беларусі, Лёзэ пісаў: «Уявім сабе, што гэтыя падзеі сталі-б вядомыя процілегламу боку й там выкарыстаныя! Праўдападобна, такая прапаганда была-б проста безвыніковая, і таму толькі, што слухачы й чытачы ня здолелі-б ёй паверыць». Лёзэ, аднак, ня цешыў сябе надзеяй на падпарадкаваньне паліцэйскіх уладаў кіраўніцтву цывільнае адміністрацыі й не прапанаваў якога-небудзь выйсьця. Падтрымліваў толькі, у рамках сваіх магчымасьцяў дзеяньні Кубэ, даючы далейшы ход ягоным рапартам, якія забясьпечваў воклічамі-рэзалюцыямі, неаднойчы паўторанымі ў пасьляваеннай літаратуры, напрыклад: «Чым поруч з гэтым зьяўляецца Катынь?» або «Гэты мэтад няварты нямецкае справы й прыносіць найцяжэйшую шкоду».

Кіраўніцтва-ж СС па зразумелых прычынах старалася не дапусьціць распаўсюджваньня зьвестак пра злачынствы карных аддзелаў ды імкнулася прымусіць Кубэ маўчаць. Пасьля знаёмства зь першымі рапартамі Кубэ, шэф Галоўнае управы СС і адначасна афіцэр сувязі Гімлера ў Міністэрстве па перасяленьні з Усходу Бэргер ў лісьце да Бройцігама ад 13 ліпеня «глыбока шкадаваў», што Кубэ высылае неправераныя зьвесткі. Адначасна копіі гэтых рапартаў Бэргер выслаў Баху, а таксама Бранджу з пэрсанальнага штабу Гімлера, указваючы, што «яны асабліва важныя, таму што паказваюць, з якой нечуванай легкадумнасьцю даклады тубыльцаў прымаюцца за праўдзівыя з мэтаю выкарыстаньня іх супраць райхсфюрэра СС». Ён таксама прасіў Бранджа, каб той паінфармаваў Гітлера.

Праверыць верагоднасьць рапартаў аказалася немагчыма, бо 10 чэрвеня загінуў Эрэнляйтнэр, а праз тры дні — Саковіч, інфармацыю якога атрымаў Лянге. Пра абодвух паведамлялася, што загінулі яны ад рук партызанаў. Спраўдзіць гэта таксама было немагчыма. Ня ўдаўся затое замах не Кубэ, падрыхтаваны ў менскім гарадзкім тэатры 22 чэрвеня. Зьмешчаная пад сцэнаю тэатру міна, якая павінна была выбухнуць падчас знаходжаньня ў тэатры Кубэ ў сувязі з урачыстасьцю, прысьвечанай стварэньню СБМ, выбухнула некалькі пазьней, падчас прадстаўленьня камэдыі Ф.Аляхновіча «Пан міністар», калі Кубэ ўжо не было. Загінула тады 13 чалавек, а некалькі дзесяткаў было цяжка паранена.

Пасьля няўдалага замаху, які таксама прыпісалі «бальшавіцкім агентам» і які не бяруць на свой рахунак савецкія крыніцы, паліцэйскія колы пачалі новую атаку на Кубэ, маючы намер перавесьці яго зь Менску. Галоўную ролю даручылі шэфу СД Штраўху, якога Гімлер ужо 24 чэрвеня меркаваў прызначыць на пасаду шэфа разьведкі ў штабе Баха, а фон Готбэрг і Бах падахвочвалі абяцаньнямі падвышэньня па службе. У чэрвені й ліпені Штраўх і ягоныя людзі актыўна «вывучалі» генэральны камісарыят і дзейнасьць Кубэ, на што ён ня мог не зьвярнуць увагі, і што выклікала новы скандал. 20 ліпеня ён выклікаў Штраўха й заявіў яму, што спыняе ўсялякае супрацоўніцтва з паліцыяй, асабліва з СД, і забараніў яе функцыянэрам уваходзіць у генэральны камісарыят. Непасрэднай прычынаю быў расстрэл СД сямідзесяці габраяў, якія працавалі на Кубэ.

Намаганьні Штраўха падтрымліваў фон Готбэрг, які быў асабліва зацікаўлены ў зьняцьці Кубэ з пасады, бо сам разьлічваў у бліжэйшым часе стаць групэнфюрэрам, а ў пэрспэктыве, пасьля Кубэ, — генэральным камісарам Беларусі. 21 ліпеня ў лісьце да Баха ён выклаў усе падрабязнасьці разрыву Кубэ з СД, а таксама іншыя факты яго варожага стаўленьня да СС, а менавіта:

«20.07.1943 па распараджэньні гаўляйтэра Кубэ ў тутэйшым генэральным камісарыяце адбылася канфэрэнцыя з кіраўнікамі аддзелаў... Гаўляйтэр спытаў, ці належыць хто з прысутных да СД — бо чуў, што ў генэральным камісарыяце ёсьць шпіёны СД. Ніхто не адазваўся, і тады гаўляйтэр забараніў супрацоўнікам генэральнага камісарыяту ўступаць у СД. Пасьля нязгоды, выказанай кіраўніком аддзелу Фройдэнбэргам, гаўляйтэр дапоўніў сваё распараджэньне тым, што дзеля неабходных кантактаў з СД павінен быць атрыманы яго (Кубэ) дазвол. Сёньня папоўдні гаўляйтэр размаўляў пра гэта з жанчынамі, якія працуюць у генэральным камісарыяце, і забараніў ім усялякія кантакты з СД...

...Зьнявагі Кубэ ў адрас СС альбо асобных начальнікаў СС... не зьяўляюцца навінаю... як, напрыклад: «Дух Гімлера й Гейдрыха падрывае германскі падмурак нямецкага народу, і яго можна параўнаць з мэтадамі вольных муляраў»; альбо зьневажальныя тырады, напрыклад, пра обэрштурмбанфюрэра СС Штраўха й г.д....».

Нарэшце зь цяжкой артылерыі стрэліў Штраўх. 25 ліпеня, ужо як прадстаўнік штабу Баха, ён падаў свайму начальніку падрабязны рапарт адносна Кубэ. Рапарт прыводзіў доказы варожасьці Кубэ да СС, абвінавачваў яго ў «абсалютнай нядольнасьці» ў сфэры адміністрацыі й кіраўніцтва, крытыкаваў яго беларускую палітыку. Асаблівую ўвагу Штраўх надаваў стаўленьню Кубэ да габрайскага пытаньня, якое кваліфакаваў як «немагчымае». Паказваў, што афіцыйныя выступленьні Кубэ, дзе ён адназначна падтрымлівае акцыю вынішчэньня габраяў не стасуюцца зь ягонымі рэальнымі дзеямі... Штраўх сьцьвярджаў, што Кубэ «ў глыбіні свайго сэрца працiўнік нашых габрайскіх акцыяў». Усе гэтыя абвінавачваньні мусілі абгрунтаваць наступную выснову: «У гэтых умовах знаходжаньне генэральнага камісара на сваёй пасадзе падаецца немэтазгодным».

Даступныя архіўныя крыніцы не даюць адказу на пытаньне, як былі выкарыстаныя гэтыя матар'ялы. Той факт, што яны былі сабраныя Бахам, можа сьведчыць, што яны меліся быць прадстаўленыя Гімлеру й маглі стаць тэмаю гаворкі апошняга ў справе Кубэ. Пра гэта можна меркаваць з паказаньняў Бэргера Амэрыканскаму Ваеннаму Трыбуналу ў Нюрнбэргу, які, гаворачы пра «напружаныя адносіны» Кубэ з начальнікамі СС, сьцьвярджаў, што «яны былі захопленыя намерамі... так-бы мовіць, скончыць з Кубэ, каб ён вымушаны быў пакінуць пасаду генэральнага камісара». Верагодна, калі дайшло да размовы з Гітлерам, той адпрэчыў гэтыя намеры, бо Кубэ застаўся на сваёй пасадзе й надалей раскрываў злачынствы СС. Уся акцыя пацярпела фіяска. 14 жніўня Брандт пераслаў рапарт Готбэрга й Штраўха Бэргеру, перадаючы заадно просьбу Гімлера пазнаёміць зь імі Розэнбэрга. Апошні-ж паслаў у Менск свайго намесьніка, які павінен быў «сур'ёзна перасьцерагчы» Кубэ.

Пару тыдняў пасьля была цішыня, якую ў ноч з 21 на 22 верасьня перапыніў выбух міны, уладкаванай пад матрацам Кубэ. Паводле паведамленьня «Дойчэс Нахрыхтэнбюро» зь Менску сьмерць Кубэ наступіла ў выніку замаху, праведзенага бальшавіцкімі агентамі, што пацьвердзіў і савецкі бок. Для вывучэньня акалічнасьцяў замаху была створаная Вялікая спэцыяльная камісія, якая складалася з афіцэраў СС: Бандорфа — старшыні, Брэйера й Гайса. Камісія ўстанавіла, што ўнесла міну ў спальню Кубэ й падклала яе прыбіральшчыца Алена Мазанік, якая атрымала яе ад Марыі Восіпавай, зьвязанай з партызанамі. Быў выяўлены ўдзел іншых членаў падпольля, а таксама тое, што абедзьве згаданыя жанчыны ўцяклі да партызанаў і былі вывезеныя самалётам у Маскву. У галоўных рысах гэта было пацьверджана ў маскоўскім часопісе «Работніца» ў лютым 1947, г.зн. у часе, калі справаздача камісіі Бандорфа не была яшчэ вядомая ў СССР.

Адэкватнасьць паказаньняў Мазанік і Восіпавай высновам камісіі Бандорфа адназначна сьведчыць пра сапраўдны ўдзел гэтых жанчын у замаху на Кубэ, што, аднак, не вырашая пытаньня, хто быў ініцыятарам і арганізатарам гэтага замаху. Сьмерць Кубэ была напэўна выгодная савецкім уладам, для якіх ягоныя дзеяньні былі ў палітычным аспэкце больш шкоднымі, чым злачынствы СС, што ўзбуджалі ў грамадзтве нянавісьць да немцаў, якая лёгка выкарыстоўвалася партызанамі. Аднак-жа, гэтая сьмерць, са згаданых вышэй прычынаў, была таксама «на руку» кіраўніцтву СС, якое выкарыстала ўжо ўсе іншыя магчымасьці, каб перавесьці Кубэ зь Менску. Нельга, такім чынам, адкінуць магчымасьць, што замах быў падрыхтаваны СС. За такую гіпотэзу гавораць наступныя акалічнасьці, што вынікаюць з аналізу справаздачы камісіі Бандорфа:

1) Камісія складалася выключна з афіцэраў СС і працавала пад непасрэдным наглядам шэфа СД у Менску, які быў падначалены фон Готбэргу, Баху й Гімлеру. Гэта гарантавала поўны ўплыў працаўнікаў Кубэ на выпікі дзейнасьці камісіі.

2) Сьледзтва цягнулася толькі некалькі дзён, і ужо 29.09.1943 шэф менскага СД загадаў камісію распусьціць. Толькі цяпер «пацьверджана», што Мазанік, дапушчаная да працы ў доме Кубэ, была да вайны супрацоўніцаю НКУС, а ў часе вайны — дзеячам савецкага падпольля. Адначасова, за нязвыкла кароткі час, былі выкрытыя ўсе падпольшчыкі, што ўдзельнічалі ў замаху, ніхто не скарыстаў магчымасьці ўцячы адразу пасьля сьмерці Кубэ. Гэта можа сьведчыць пра сфабрыкаваньне справы, тым болей, што ўсе сьведкі былі зьліквідаваныя, а сьляды цалкам зацёртыя.

3) У гэты кароткі час, г.зн. да 29 верасьня, камісія вызначыла, што Мазанік і Восіпава былі вывезеныя з партызанскага аэрадрому ў Маскву. Гэта асабліва важная дэталь справаздачы, бо сьведчыць пра тое, што СД мела інфармацыю ад свае агентуры, якая дзейнічала ў партызанскім атрадзе, куды зьбеглі абедзьве жанчыны. Значэньне гэтае акалічнасьці яскрава ілюструе факт, што ў апублікаванай у СССР справаздачы камісіі Бандорфа пра яе не гаворыцца.

У Савецкім Саюзе першае паведамленьне пра сьмерць Кубэ зьмясьціла маскоўская «Праўда» 24 верасьня, падаючы, што ён загінуў «от меткой партизанской пули». Памылка гэтая, якая атрымалася, напэўна, у выніку інтэрпрэтацыі паведамленьня нямецкага радыё, заслугоўвае вялікае ўвагі. Яна сьведчыць, што, ня гледзячы на наяўнасьць радыёсувязі, камандаваньне партызанскага атраду, куды зьбеглі Мазанік і Восіпава, ня выслала паведамленьня ў Маскву. Значыць, можна меркаваць, што камандаваньне гэтага атраду, які (як гэта цяпер падаецца) даўно рыхтавала замах, і даведаўшыся пра сьмерць Кубэ ад незнаёмых жынчынаў, і паставілася да ўсяе справы зь перасьцярогаю, баючыся магчымай правакацыі. Цікавы далейшы лёс Мазанік і Восіпавай: пасьля апублікаваньня ў лютым 1947 артыкулу ў «Работніце» некалькі гадоў захоўвалася пра іх поўнае маўчаньне. Між іншым, не ўспамінаў пра іх Л.Цанава, аўтар грунтоўнае працы пра партызанскую вайну на Беларусі, у якой знайшлося шмат мейсца для менш займальных фактаў. Не пазбаўлены значэньня той факт, што гэты аўтар быў у пачатку 1950-х гадоў міністрам дзяржаўнае бясьпекі БССР. Можна, значыць, меркаваць, што падозраньне адносна правакацыі СС было сур'ёзнае.

Сам Кубэ сур'ёзна асьцерагаўся замаху й у апошнія месяцы свайго жыцьця меў намер замяніць паліцэйскую ахову свайго дома на «прыватную» варту — зь верных прадстаўнікоў СА (штурмавыя атрады — Рэд.) ці маладых «фольксдойчаў». Гімлер, аднак, «ні ў якім выпадку» не згаджаўся з гэтымі праектамі. Такім чынам, трымаў Кубэ цалкам у рукох. Сьмерць Кубэ, нягледзячы на існаваньне некалькіх вэрсіяў, усё яшчэ не перастае быць загадкаю.

У дзень пахаваньня Кубэ ў Бэрліне Гітлер даручыў ускласьці ягоны вянок на магіле. Гімлер-жа заявіў, што толькі сьмерць засьцерагла Кубэ ад высылкі ў канцлягер. Разнос ацэнак гэтага чалавека быў вельмі шырокі ня толькі ў вачох вядучых асобаў Райху, але й дасьледчыкаў вайны.

Сапраўды, цяжка адназначна ацаніць дзейнасьць Кубэ. Ён быў найвышэйшым прадстаўніком акупацыйнага рэжыму на Беларусі, злачынны характар якога не падлягае дыскусіі. Беручы фармальна, згодна з дэкрэтам Гітлера ад 17.07.1941, Кубэ быў «асабіста й непасрэдна» падпарадкаваны начальнік СС і паліцыі ў Менску, у сувязі з чым людазабойчая дзейнасьць гэтых органаў Гімлера мусіла быць дзейнасьцю таксама й Кубэ. Аднакжа гэты самы дэкрэт упаўнаважваў выключна райхсфюрэра СС аддаваць загады начальнікам СС і паліцыі, а разам з тым выключаў уплыў цывільнае адміністрацыі на іх дзейнасьць. Гэты парадак не зьмяніўся да сьмерці Кубэ й зьяўляўся падставаю для адхіленьня паліцэйскай уладаю любога ўмяшальніцтва цывільнае адміністрацыі. Незалежна ад гэтае адміністрацыі ішла таксама дзейнасьць вэрмахту.

Значыць, можна меркаваць, што пры такіх акалічнасьцях Кубэ ня нёс непасрэднае службовае адказнасьці за людазабойствы. У гэтай сітуацыі ён мог, як іншыя камісары на акупаваных савецкіх абшарах, захоўваць пры злачынных дзеяньнях гітлераўскага апарату красамоўную абыякавасьць, якая ў сьвятле лагодных вырокаў Амэрыканскага Ваеннага Трыбуналу ў Нюрнбэргу не зьяўлялася акалічнасьцю, якая абцяжарвала віну. Можна меркаваць, што абыякавасьць Кубэ вынікала зь ягонага пачуцьця маральнае адказнасьці, што ён, зрэшты, выказаў у сваёй (цытаванай вышэй) жнівеньскай справаздачы. З гэтых самых меркаваньняў ён не хацеў адмаўляцца ад свае пасады, што, праўда, магло быць выйсьцем зь яго асабістае драматычнае сітуацыі — але азначала-б капітуляцыю перад злачыннымі дзеяньнямі СС.

Адсюль выснову Даліна, што Кубэ й СС прызнавалі аднолькавыя мэты й рэаліі (goals and premises) можна было-б лічыць непаразуменьнем, калі-б не тэндэнцыйнасьць гэтага аўтара. Датычыцца гэта нават габрайскага пытаньня. Райтлінгер, дасьледчык актаў вынішчэньня габраяў у Эўропе, бачыў безвыніковасьць захадаў Кубэ ў гэтай справе, аднак заўважыў таксама, што «...сярод цывільных ці вайсковых высокіх чыноўнікаў у Расеі Кубэ быў адзіны, хто некаторы час стрымліваў расісцкіх забойцаў. Узьнёслы й непасьлядоўны, тоўсты й пачуцьцёвы, гэты немалады спадар шмат месяцаў рабіў тое, на што не насьмеліўся-б ніводзін прадстаўнік так шмат услаўленае апазіцыі супраць Гітлера».



Радаслаў Астроўскі — супрацоўнік газэты «Наша ніва»; сябра ЦК Бел. Сацыялістычнай Грамады; дэлегат 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу ад Случчыны; навуковец, праф. матэматыкі; віцэ-старшыня ЦК Бел. Сялянска-Работніцкай Грамады; арганізатар і кіраўнік беларускае адміністрацыі ў акругах Менскай, Бранскай, Смаленскай і Магілеўскай у 1941-1943, Прэзідэнт БЦР ад 1943.



Аўген Калубовіч — урадовец Народнага Камісарыяту Асьветы БССР; працаўнік навуковага аддзелу бел. бюро; старшыня Бел. Культурнага Згуртаваньня; сябра БЦР і кіраўнік аддзелу культуры БЦР.

Надзея Міцкевіч — рэфэрэнтка Аддзелу Культуры Саюзу Беларускай Моладзі.

Анатоль Плескачэўскі — лейтэнант БКА, ад'ютант Прэзідэнта БЦР.



Аляксандар Русак — бургамістар Баранавічаў і дырэктар Адміністрацыйна-Гандлёвае Школы.



Юры Сабалеўскі — землямер; супрацоўнік «Нашай нівы»; за барацьбу супроць акупантаў Беларусі быў шмат разоў арыштаваны; пабываў у турмах Смаленску, Менску, Стоўпцах, Наваградку й у Вільні; пасол у Польскі Сойм ад беларускага народу; сябра ЦК Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады; віцэ-прэзідэнт БЦР.

Фотаздымкі з кнігі Другі Ўсебеларускі Кангрэс. Мюнхен, 1956. Рэпрадукцыі Уладзіміра Несьцера.

ЧАЛАВЕК

# ЯНЫ НЯ ВЕРНУЦЦА

*Выйсьце, абранае імі, жахлівае. Апошняе, чаго яны жадаюць – гэта сьмерць. Чаму?*

Кожны шосты самагубца пакідае ліст да жывых. Лісты гэтыя сьведчаць, што бедакі ня супраць самога жыцьця, яны адмаўляюць даступны ім жыцьцёвы шлях.

Матывы самагубства, як і тэксты лістоў, ня больш чым варыяцыя некалькіх тэмаў. Выключны трагізм сітуацыі не надзяляе людзей здольнасьцю выйсьці за межы стэрэатыпаў мысьленьня, дадзеных ім грамадзтвам і ягонай культураю. Людзі ўжываюць аднолькавыя словы, стыль і аргумэнтацыю. На падставе іх лістоў дасьледчыкі выявілі пэўную колькасьць сітуацыяў.

Гэта канфлікты паміж асобамі. Няшчасьце каханьня. Раптоўныя трагічныя здарэньні й цяжкія захворваньні. Душэўныя хваробы. Старасьць.

Самагубцы – людзі рознага ўзросту. Часьцей за іншых – тыя, каму за 60. Крызіс апошніх гадоў спрыяе росту колькасьці самагубстваў у гэтай сацыяльнай групе.

Наш сацыялізм – лад для маладых, здаровых і дужых. У 1983–87 доля старых сярод ахвяраў самагубства пабольшала з 17,2% да 24%. У той-жа час агульная колькасьць самагубцаў у 1988 скарацілася з 81 да 54 тыс. чалавек.

На беларусі ў 1990 было зафіксавана каля 1,5 тыс. самагубстваў.

На думку некаторых аналітыкаў спад адбыўся дзякуючы антыалькагольнай кампаніі. Але кампанія сканала ледзьве нарадзіўшыся. Апрача таго небясьпечныя з нашага пункту погляду катэгорыі насельніцтва замест гарэлкі ўжывалі розныя сурагаты. Статыстыка падае гэтаму яскравыя прыклады. Продаж клею «БФ» узрос на 30%, шклоачышчальнікаў – на 14%, адэкалёнаў і лясьёнаў – на 29%, дыхляфосу – на 17%. Цяжка ўявіць, што ўсё гэта пайшло на рамонты, галеньне ды барацьбу з мухамі.

Старыя, дарэчы, рэдка забіваюць сябе з-за злоўжываньня алькаголем – большасьць зь іх ня мае грошай на гарэлку. Затое ніхто не бароніць іх перад бясьсільлем, хваробамі, самотаю, мізэрнай пэнсіяй, думкамі пра тое, што жыцьцё прайшло дарэмна, бязглузда.

А што прапануе грамадзтва? Культуру – пьяную таўканіну ў паўпустым клюбе ды злыя кпіны зь «цямнаты калхознай»? Веру? Яна ня можа ўзьнікнуць раптам, бо для гэтага няма падставаў. Жыцьцёвы ўклад, разарваны паміж перанаселенымі гарадамі й спустошанай эканамічнай палітыкаю вёскай?

Можа сям'ю? Зь сям'ёй ня кожнаму шанцуе. Тыповыя сямейныя адносіны – нядзельны бохан гарадзкога белага хлеба ды чарговая просьба пазычыць грошай.

Самая нізкая колькасьць самагубстваў у азіяцкіх ды каўказскіх рэспубліках, дзе адносіны да старых больш спрыяюць іх выжываньню. Дарэчы, яшчэ З.Дзюркгэйм (Спб., 1912) паказаў, што ўзровень самагубстваў знаходзіцца ў адваротнай залежнасьці ад згуртаванасьці (інтэграцыі) супольнасьці.

Спад колькасьці самагубстваў сярод маладых зьвязаны хутчэй за ўсё з тым, што іх апошні крок спыняла надзея. Імглісты абрыс свабоды, які зьявіўся ў пачатку перабудовы, вабіў, не даваў адыйсьці, не дагледзеўшы да канца.

Грамадзтву спатрэбілася зьяўленьне безьлічы гешэфтмахераў ад астралёгіі, каб асэнсаваць тое, што даўно вядома. Яшчэ ў пачатку стагодзьдзя Аляксандар Чыжэўскі, адзін з пачынальнікаў геліябіялёгіі, адкрыў, што чалавек, як дробная часьцінка сусьвету залежыць ад яго ня меней чым усё астатняе. Вось кароткі сьпіс зьяваў зь ягонае кнігі «Земное эхо солнечных бурь». Па пэрыядычнасьці з актыўнасьцю сонца супадаюць: ураджай вінаграду, збожжа й кармавых культураў, колькасьць і распаўсюджаньне вусеняў, пладавітасьць і міграцыя жывёлаў, вага немаўлятаў, псіхапатычныя эпідэміі, афэктыўныя злачынствы, няшчасныя выпадкі й здарэньні, раптоўныя сьмерці, сьмяротнасьць, эпідэміі й інш.

Вось дзеля цікаўнасьці дадзеныя пра сонечную актыўнасьць з той жа кнігі: 1750, 1761, 1769, 1778, 1805, 1816, 1829, 1837, 1848, 1860, 1883, 1894, 1905, 1917, 1929, 1941, 1953, 1965, 1979, 1991. Ня цяжка ўзяць падручнік па гісторыі й паспрабаваць пашукаць там гэтыя даты. Знойдзеныя сацыяльна-палітычныя паралелі могуць ўразіць. Менавіта на згаданыя гады прыходзіліся пэрыяды найбольш актыўнага ўтварэньня плямаў на Сонцы.

З гэтага пункту погляду А.Чыжэўскі аналізаваў статыстыку самагубстваў. У якасьці прыкладу ён прыводзіў дадзеныя дасьледчыкаў Т. і Б.Дзюль, якія выявілі супадзеньне дынамікі магнітных бураў з адпаведнымі паказчыкамі сьмяротнасьці ў выніку самагубства й псіхічных захворваньняў у Капэнгагене, Цурыху й Франкфурце-на-Майне.

Трэба адзначыць, што колькасьць самагубстваў узрастае ў сакавіку–ліпені, скарачаецца ў верасьні–сьнежні. На працягу тыдня пік прыпадае на аўторак, спад – на сераду–чацьвер. Але мужчыны часьцей зводзяць рахункі з жыцьцём у дні адпачынку. У буйных гарадох пікавыя дні месяца: 4–6, 15–17, 22–24 (дні заробку) у мужчын і на дзень–два пазьней у жанчын. Апошнія, мабыць, не вытрымліваюць п'яных зьдзекаў.

Дынаміка самагубстваў абумоўленая яшчэ шэрагам чыньнікаў. Істотнае значэньне мае ўзровень адукацыі. Сярод самагубцаў асобы, якія не маюць сярэдняй адукацыі, складаюць 63%, у той час, калі іх частка ў агульнай колькасьці насельніцтва ня болей за 25%. Адзінокія людзі часьцей бываюць самагубцамі чым сямейныя. Апошнія складаюць прыкладна 40%, у той-жа час у агульнай колькасьці насельніцтва сямейных каля 75%.

На прыняцьце фатальнага рашэньня рэзка ўплывае сацыяльнае становішча. Пераможная рабочая кляса ўтрымлівае першынство – 54% самагубцаў.

Мужчыны па ўласнай волі разьвітваюцца з жыцьцём ў 3 разы часьцей за жанчын, асабліва ў найбольш актыўным узросьце. Больш за 75% самагубстваў у мужчын прыпадае на працаздольны ўзрост, а ў жанчын больш паловы – на пэнсійны ўзрост.

**Колькасьць самагубстваў на Беларусі (На 1млн жыхароў)**

| Вясковае насельніцтва | Гарадзкое насельніцтва |
|---|---|
| 233 | 145 |

Дадзеныя за 1986.

Безумоўна, адбіваецца на сітуацыі й псіхічны стан чалавека. Тыя ці іншыя адхіленьні ў стане здароўя ўласьцівыя амаль палове самагубцаў. Менавіта для іх уплыў кожнага з чыньнікаў, у тым ліку й касьмічнага, можа стаць апошнім штуршком да непапраўнага кроку.

Зважаючы на гэтыя высновы, можна параўноўваць статыстыку самагубстваў на Беларусі (у 1986 – 178 чал. на 1 млн насельніцтва) й СССР (сярэднесаюзная лічба ў 1986 – 188 чал. на 1 млн насельніцтва). У той-жа час узровень сьмяротнасьці з прычыны самагубства складаў у Вялікабрытаніі – 90, у ЗША – 120, ФРГ – 210, Францыі – 220 чалавекі на 1 млн насельніцтва.

Мабыць, пэўная ўстойлівасьць нацыянальнага характару спрыяе таму, што й пад Чарнобыльскай навалаю беларусы ня трацяць прагі да жыцьця. Але хто ведае мяжу трываласьці нацыі, тым болей, што робіцца ўсё магчымае, кабнацыя гэтая як мага хутчэй пераўтваралася ў натоўп.

Колькасьць самагубстваў звычайна ў 3 разы большая за колькасьць забойстваў. Прычым гэтая прапорцыя звычайна стабільная. Пік гэтае сумнае статыстыкі прыйшоўся на 1984.

Мінулі часы, калі самагубства каралася як злачынства, у тым выпадку, калі чалавеку пашэнціла выжыць. Пасьля 1917 кару за гэты ўчынак скасавалі. Але ці зьменшыла гэта нашую маральнаю адказнасьць за сваё жыцьцё, за жыцьцё кожнага, хто жыве побач з намі? Ці не спрабуем мы падсьвядома пераклаcьці гэтую адказнасьць на плечы й без таго кволае дзяржавы?

**Міхась ЗАЛЕСКІ,**
**кандыдат эканамічных навук.**





# НЕФАРМАЛЫ

*Пасьля апячатваньня будынкаў КПСС-КПБ група камуністаў, якая згуртавалася вакол сакратара па ідэялёгіі Менскага гаркаму А.Чыкіна, пачала нефармальна зьбірацца на ганку Дома палітасьветы. Гэтак у свой час зьбіраўся Рабочы Саюз. Характэрна, што журналісты нядаўна яшчэ партыйных газэт ня цешаць сваіх былых гаспадароў асаблівай увагай. Зь меркаваньняў плюралізму гэтую функцыю мусілі ўзяць на сябе мы.*

**«Навіны»: Сп. Чыкін, як Вы ацэньваеце пазіцыю сваіх калегаў, якія прагаласавалі на сэсіі ВС БССР за прыняцьцё закону аб дэпартызацыі й аб часовым прыпыненьні дзейнасьці КПБ?**

А.Чыкін: Ва ўмовах татальнага ўціску з боку сродкаў інфармацыі, якія распачалі істэрычную кампанію, людзі завагаліся.

**«Навіны»: Якія пэрспэктывы мае беларуская кампартыя? Яна ператворыцца ў нешта іншае ці верне пазіцыі, на якіх знаходзілася да 19 жніўня?**

А.Ч.: Я зыходжу з таго, што пакуль існуе рабочая кляса, павінна існаваць партыя, якая выказвае ягоныя інтарэсы. Можна растаптаць КПСС-КПБ, але камуністычную ідэю ня здолелі растаптаць ні Гітлер ні Мусаліні ні Піначчэт. Ці будзе яна называцца КПСС-КПБ, ня ведаю. Усё залежыць ад таго, як сілы, што прыйшлі да ўлады ў выніку нядаўняе рэвалюцыі, будуць выконваць законы. Калі будуць – партыя адродзіцца. Калі законы будуць парушацца й шляхам часовае забароны здолеюць зьліквідаваць партыю, дык, відавочна, партыі давядзецца пачынаць усё спачатку, будзе ствараца іншая партыя.

Мне хацелася-б верыць у тое, што ў людзей, якія назвалі сябе дэмакратамі, (і называюць зараз), якія ўжо атрымалі ўладу, да таго-ж пад лёзунгамі будаўніцтва прававое дзяржавы, хопіць сумленьня, каб не давозіць справу да поўнага зьнішчэньня кампартыі.

**«Навіны»: Як у Менску выконваюцца распараджэньні пра ўзяцьце пад ахову маёмасьці КПБ?**

А.Ч.: Гэтыя законы пачалі выконвацца яшчэ да таго, як былі абвешчаныя. Уначы з суботы на нядзелю група дэпутатаў ад дэмплыні на чале са сп. Гурыновічам кінулася выконваць заяву Генэральнага сакратара злачыннай, зь іх пункту гледжаньня, партыі. Яны гвалтам уварваліся ў гарадзкі камітэт, паспрабавалі апячатаць памяшканьне ГК партыі. Яны амаль суткі знаходзіліся ў будынку ГК, потым туды прыйшлі нейкія людзі з павязкамі дружыны БНФ (цікава было-б даведацца, што гэта такое) і заблякавалі будынак. Цяпер будынак ахоўваецца міліцыяй і прадстаўнікамі КДБ, допуск туды дазволены толькі сакратарам ГК і загадчыку справамі ды тэхнічнаму пэрсаналу. Прыбіральшчыцам забараняюць выносіць сьмецьце. Нават прыбіральню апячаталі.

**«Навіны»: Амаль журналісцкім штампам стала зараз меркаваньне пра тое, што БНФ зблякаваўся з часткаю кампартыі. Гэта праўда?**

А.Ч.: Дзеля дасягненьня мэтаў дэмакратыі, у інтарэсах працоўных, тых хто жыве на зарплату й ня мае іншых крыніцаў існаваньня, мы гатовыя блякавацца з кім заўгодна, у тым ліку й з БНФ. Я казаў пра гэта даўно, і падзеі, якія адбыліся, на мой пункт гледжаньня не паўплывалі. Мы гатовыя да супрацоўніцтва, зразумела, пасьля таго, як будзе прынятае рашэньне аб узнаўленьні дзейнасьці кампартыі. Мы гатовыя да саюзу зь любымі палітычнымі рухамі.

**Запісаў Юры Дракахруст.**

# САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА Ў МЭДЫЦЫНЕ

*Жыхары Магілёва зьвярнуліся з адкрытым лістом да народных дэпутатаў БССР А.Булахава, З.Пазьняка, А.Трусава, народнага дэпутата СССР С.Габрусева, у якім патрабуюць адмены загаду № 10 ад 22.01.1985 колішняга міністра аховы здароўя БССР М.Саўчанкі як незаконнага, бо ён прымушае беларускіх лекараў да саўдзельніцтва ў генацыдзе супроць уласнага народу. Асабліва гэта датычыцца тых лекараў, якія практыкуюць у паражаных радыяцыяй зонах. Цалкам тэкст ліста быў надрукаваны ў газэце «Могилёв Times» (№ 7, красавік 1991).*

Сутнасьць загаду М.Саўчанкі зводзіцца фактычна да 1 пункту, дзе сказана «забясьпечыць безумоўнае выкананьне сацыялістычных абавязкаў рэспублікі пра зьніжэньне ў 1985 годзе на 10 % часовае непрацаздольнасьці ў сувязі з захворваньнямі працоўных». Аўтары ліста – 84 чалавекі сярод якіх 4 дэпутаты – пішуць, што загад, які датычыўся нібыта толькі 1985 году, выконваецца дагэтуль, што пацьвярджае рашэньне сумеснае калегіі магілёўскага аблздраўаддзелу й аблсабесу № 5ю4 ад 23.02.1990. У выніку гэтага рашэньня «лекары вымушаныя па ўказаньні з вышэйшых інстанцыяў замест дыягназу «хранічная промневае захворваньне» ставіць дыягназ «нэйрацыркуляторная (вэгетасасудзістая) дыстанія», што сапраўды дазваляе зьменшыць на 10% колькасьць дзён знаходжаньня на бюлетэні.

Аўтары ліста патрабуюць прыцягнуць да адказнасьці цяперашняга міністра аховы здароўя БССР Казакова, які ў 1985 годзе працаваў загадчыкам магілеўскага воблздраўаддзелу і выконваў гэты загад, а цяпер «узмацняе кантроль» за ягоным выкананьнем.

У газэце «Могилёв Times» (№12, чэрвень 1991) быў зьмешчаны адказ першага намесьніка міністра аховы здароўя М.Сьцепаненкі, а таксама камэнтар да яго сустаршыні рабочага камітэту М.Кілеса й лекара хуткае дапамогі М.Літоўчанкі.

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта адсутнасьць пад адказам М.Сьцепаненкі подпісаў прадстаўнікоў прафсаюзу, на меркаваньне якіх ён спасылаецца (аўтары ліста паказваюць, што гэты загад ня быў узгоднены з прадстаўнікамі прафсаюзаў). Адказ напісаны ў лепшых савецкіх дэмагагічных традыцыях. Гэта адказ чалавека, які глядзіць на рэчы фармальна, а не па сутнасьці.

М.Сьцепаненка падкрэсьлівае, што загад накіраваны нібыта «на падвышэньне якасьці мэдычнае дапамогі». Аднак «зьніжэньне паказчыкаў» павінна ажыцьцяўляца праз падвышэньне якасьці лячэньня, што ніяк немагчыма зрабіць адным загадам, які, дарэчы, быў разьлічаны на адзін год. Яно павінна адбывацца не праз штучнае прыхоўваньне колькасьці й цяжкасьці захворваньняў, а праз выкарыстаньне новага абсталяваньня, новых мэтодыкаў, удасканаленьне кантролю, прыцягненьне дадатковых асігнаваньняў і г.д. Гэта павінна быць зразумела і самому прафэсару М.Сьцепаненку і тым, хто ажыцьцяўляе гэты загад.

Ёсьць, вядома, і другі шлях – без аніякіх пераменаў скараціць выдачу лістоў непрацаздольнасьці, тэрміны знаходжаньня ў шпіталях. Ад гэтага паказчыкі таксама зьнізяцца. І менавіта гэты фармальны шлях абраны Міністэрствам аховы здароўя БССР.

Рыхтуючы гэты матар'ял, я зьвязалася па тэлефоне з адным з аўтараў ліста сябрам магілёўскае гарадзкое Рады БНФ, лекарам хуткае дапамогі М.Літоўчанкам, які паведаміў, што ў горадзе й вобласьці пасьля публікацыі нічога не зьмянілася акрамя таго, што быў звольнены з працы начальнік абласнога аддзелу аховы здароўя Качанаў.

**Анастасія Казлова.**


**Навіны**
*Верасень, 6'1991*

**Рэдактар Алесь Суша**
**Нумар падрыхтавалі:** Алена Вашчанка, Алена Галаўчак, Павел Данейка, Тамара Дайнека, Юры Дракахруст, Аляксандар Куцаў (камэрцыйны дырэктар), Аляксандар Лазоўскі, Ірына Лазоўская (нам. рэдактара), Уладзімір Панада, Юры Рагуля.
**Заснавальнік** Зянон Пазьняк. Ліцэнзія №67. Меркаваньне аўтараў публікаваных матар'ялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі й кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе й не вяртае.
**Адрас рэдакцыі:** 220050, Менск, вул.К.Маркса, 25–79. Тел. 27-06-04.

Надрукавана ў Аршанскай друкарні, замова № 3579 наклад 15 тыс.